...не разбіць, не спыніць, не стрымаць

# Голас Ліды



№ 5 (39) 1 СНЕЖНЯ 2000 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## 80 гадоў Слуцкаму Збройнаму Чыну



*Слуцкі збройны чын 1920 года ўвайшоў у гісторыю нашага народа, як яркая старонка ў справе барацьбы за незалежнасць Беларусі. Асноўнай ідэяй збройнага чыну была ідэя незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Асноўным чынніка беларускага змагання было сялянства, якое ўзначаліла народная, нацыянальна свядомая інтэлігенцыя. Беларускае сялянства таксама бараніла сваё сацыяльнае становішча ад аграрнай палітыкі савецкай улады ("ваеннага камунізму"), якая суправаджалася канфіскацыя прадуктаў харчавання, коней, кароў і масавымі рэпрэсіямі карных органаў Савецкай улады ў дачыненні да беларускага сялянства...*

***Доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч.***

## Гарадзеншчына дае старт прэзідэнцкаму марафону

26 лістапада ў Горадні прайшла III Асамблея няўрадавых арганізацый Гарадзеншчыны. Асамблея разгледзела стратэгію развіцця 3-га сектара Гарадзеншчыны, абрала новую раду Асамблеі з 20 чалавек, старшыню рады, прадстаўнікоў у рабочую групу Нацыянальнай асамблеі няўрадавых арганізацый. На паседжанні рады старшынём Рады Гарадзенскай абласной асамблеі няўрадавых арганізацый абраны старшыня Альянсу "Дэмакратычная Ліда", старшыня лідскіх гарадскіх арганізацый ГА БНФ "Адраджэньне" і ГА ТБМ імя Францішка Скарыны Станіслаў Суднік.

Асамблея разгледзела і адно спецыфічнае пытанне: ***"Аб адносінах да вылучэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары 2001 года ад дэмакратычных сілаў Беларусі"***. У выніку дыскусіі Асамблея прыняла зварот, у якім у прыватнасці гаворыцца: *"Мы -- дэлегаты III абласной Асамблеі няўрадавых арганізацый Гарадзеншчыны падтрымліваем ідэю вылучэння на будучых выбарах прэзідэнта Беларусі адзінага кандыдата ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў Беларусі. У якасці такога кандыдата мы прапануем разгледзець і падтрымаць кандыдатуру **Домаша Сямёна Мікалаевіча**. Звяртаемся да Асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі, а таксама да ўсіх дэмакратычных арганізацый Гарадзеншчыны з прапановай падтрымаць гэтую ініцыятыву".*

Па пытанні правамернасці такой ініцыятывы на Асамблеі было заяўлена, што выбары прэзідэнта справа не столькі палітычная, колькі грамадская, бо жыць з новым прэзідэнтам перш за ўсё давядзецца грамадзянам, народу, а пасля ўжо розным палітыкам і партыям.

*__Сямён Домаш -- былы старшыня Лідскага гарвыканкаму__, былы старшыня Гарадзенскага аблсавету і аблвыканкаму, член Прэзідыюму і намеснік старшыні Вярхоўнага Савету 13-га склікання, адзінага легітымнага органу ўлады на Беларусі. Сямён Домаш адмовіўся ўвайсці ў лукашэнкаўскую палату, палічыўшы за лепшае застацца сумленным беспрацоўным. Ён стварыў дэмакратычную арганізацыю "Гарадзенская ініцыятыва", аб'яднаў рэгіянальныя дэмакратычныя арганізацыі ў "Рэгіянальную Беларусь", увайходзіць у Каардынацыйную раду Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў.*

Такім чынам гарадзенскія грамадскія арганізацыі пры 41 голасе "за", 2-х "супраць" і 13-ці ўстрымаўшыхся свой выбар зрабілі.

*Я. Г.*



***26 лістапада споўнілася 70 гадоў заснавальніку нацыянальнай беларускай гістарычнай літаратуры Уладзіміру Караткевічу. "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Сівая легенда", "Каласы пад сярпом тваім", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі" -- тыя кнігі на якіх вырасла пакаленне, што ў 1991 годзе усё-такі дасягнула незалежнасці Беларусі, усталявала адвечныя нацыянальныя сімвалы, якое данесла да сваіх дзяцей і ўсяго свету веліч і багацце нашай гісторыі, якое ўсвядоміла сваю этнічную самабытнасць і нацыянальную адметнасць.***

Фота з архіву БелТА.

# Кадравы землятрус на Беларусі

***3 тыдзень назад у Інтэрнэце і іншых СМІ з'явіўся ананімны ліст афіцэра КДБ наступнага зместу:***

"Я офицер Комитета Государственной Безопасности Республики Беларусь. По целому ряду обстоятельств не могу сообщить свою фамилию и должность, которую занимаю. Информация, которую я хочу сообщить, общественно значима. От того, как скоро она станет достоянием гласности, зависит жизнь и будущее многих людей.

К сожалению, я ограничен в изложении фактов, так как к материалам дела имеет доступ ограниченное количество оперативных сотрудников и офицеров КГБ. Упоминание более уточненных данных может привести к неоправданным жертвам.

Ведение следствия по делу об исчезновении Дмитрия Завадского было поручено Генеральной прокуратуре и Комитету государственной безопасности. Факты, которые вскрывались по ходу следствия, вызвали не только давление на органы следствия со стороны Совета безопасности, но и вызвали противостояние между КГБ и Службой безопасности президента. На след группы похитителей КГБ вышел после ареста Игнатовича, бывшего офицера спецподразделения «Алмаз». Игнатович был арестован по другому делу, но сам он несколько раз был в Чечне, где воевал на стороне сепаратистов. Во время следствия Игнатович назвал ряд фамилий белорусских военнослужащих, сотрудничавших с чеченскими сепаратистами в качестве инструкторов.

После их ареста подтвердилась чеченская версия следствия. По делу об исчезновении Завадского, на сегодняшний день, арестовано 9 человек. Пятеро из них являются действующими офицерами Службы безопасности президента, двое – бывшие сотрудники этой службы, один – бывший офицер спецподразделения «Алмаз», а еще двое – уроженцы Чечни.

Подследственные признались в убийстве Дмитрия Завадского и указали место в лесной зоне недалеко от Минска, где было закопано тело Завадского. В распоряжении следствия оказалась и лопата со слезами крови. Экспертиза выявила идентичность крови на лопате с кровью Дмитрия Завадского.

Эксгумация тела Дмитрия Завадского не состоялась. Ее не дали провести следственной группе руководство Совета безопасности и лично Президент. Вместо этого в Администрацию президента были вызваны Председатель КГБ Владимир Мацкевич, Генеральный прокурор Олег Божелко и Министр внутренних дел Владимир Наумов. Президент приказал передать дело в МВД, мотивируя это тем, что следствие идет недостаточно интенсивно. На самом деле, это было сделано для того, чтобы развалить дело об исчезновении Завадского.

В ходе следствия также выяснилось, что эта преступная группа имела прямое отношение к исчезновению и убийству оппозиционного политика Виктора Гончара. В их ликвидации принимало участие 14 человек. Пятеро из них разыскивались вплоть до передачи дела в МВД.

Во время следствия давление на следственную группу дошло до критической точки. Два следователя были избиты, а жену одного из них пытались изнасиловать. Но, несмотря на это, следователи продолжали работу по изобличению преступников.

Я хотел бы, чтобы семьи погибших знали – мы не звери, как некоторые пытаются нас представить. Мы сочувствуем вам и понимаем, что ничто не восполнит вашей утраты. Единственное, что в наших силах – это изобличить преступников. А если кто-то пытается этих преступников покрыть, то им самим не избежать скамьи подсудимых".

*Такой уцечкі інфармацыі Аляксандр Рыгоравіч вынесці не змог. Мала таго, што Рушайла выдаў усю апаратыўную інфармацыю каму папала, мала таго, што грызня паміж рознымі галінамі беларускіх спецслужбаў перайшла ўсе межы прыстойнасці і здаровага сэнсу, мала таго, што бяспеку царственна-прэзідэнцкага цела забяспечвалі, мякка кажучы, людзі западозраныя ў выкраданні і забойстве вядомых апазіцыйных палітыкаў, дык гэта ўсё яшчэ стала вядома шырокай грамадскасці.*

*Сапраўднасць фактаў прыведзеных у лісце пацвярджае хаця б тое, што праз тыдзень пасля яго з'яўлення ў друку зляцелі са сваіх пасад Генеральны пракурор Бажэлка і Старшыня КДБ Мацкевіч, якія дазволілі сваім следчым падабрацца залішне блізка да заказчыка гэтых злачынстваў. Пад гарачую руку трапіў і шэры кардынал Шэйман, але потым прэзідэнт адумаўся і прызначыў былога ці то танкіста, ці то нампаліта Генеральным пракурорам. Наша рэдакцыя пакуль не мае звестак пра юрыдычную адукацыю новага Генеральнага, але калі нашыя падазрэнні спраўдзяцца, і гэтай адукацыі няма зусім, то што ж, гэта значыць мы ажыццявілі мару Ільіча і кухарка пачала-такі кіраваць дзяржавай. А чаму б і не. Калгасніку можна, а танкісту -- не, не справядліва.*

*Знялі яшчэ і Міністра культуры, але, мабыць, за нейкія іншыя грахі.*




Калі верыць афіцэру КДБ, то гэтая карыкатура ўжо састарэла. Зараз да камер ужо не давозяць.

# Рэгіянальная Беларусь

## ВІЗЫТ ЛІДЭРАЎ АПАЗЫЦЫІ Ў ЭЎРОПУ

Лідэры аб'яднанай дэмакратычнай апазыцыі Вінцук Вячорка, Анатоль Лябедзька, Аляксей Кароль і Андрэй Саньнікаў ажыццявілі плянавую паездку ў эўрапейскія сталіцы. У сераду, 15 лістапада яны прыбылі з Брусэля ў Страсбург. У Эўрапейскім парлямэнце яны правялі перамовы з кіраўніцтвам спэцыяльнае дэлегацыі Эўрапарлямэнту ў справах Беларусі (Ян Марынус Віерсма, Нідэрлянды; Леанарт Сакрэдэўс, Швэцыя; Элізабэт Шродтэр, Нямеччына; Марсэт Кампас, Гішпанія), пасьля чаго выступілі перад сябрамі спэцыяльнае дэлегацыі.

Эўрапейскія дэпутаты падтрымалі прапанову правесьці адмысловыя слуханьні наконт Беларусі.

16 лістапада Беларускія палітыкі сустрэліся ў брытанскім парлямэнце з дэпутатамі Эндру МакКінлі (Партыя працы), і Майклам Трэндам (Кансэрватыўная партыя).У міністэрстве замежных справаў адбылася размова беларускіх лідэраў зь міністрам у справах Эўропы Кітам Вазам.

Акрамя таго, у праваабарончай арганізацыі "Артыкул XIX" яны правялі круглы стол з аналітыкамі й журналістамі, а таксама наведалі Бібліятэку імя Ф. Скарыны.

Усе суразмоўцы беларусаў пацьвердзілі, што гэтак званая палата прадстаўнікоў ня будзе прызнаная, выказалі гатоўнасьць спрыяць дэмакратычнай пэрспэктыве Беларусі ў 2001 годзе і высока ацанілі адзінства апазыцыі.

Яны абяцалі востра адрэагаваць на расправу лукашыстаў над свабодалюбівай моладзьдзю 12 лістапада.

*Прэсавая група БНФ "Адраджэньне" й Партыі БНФ.*

## Лідэры апазіцыі падводзяць вынікі візіту ў Эўропу

21 лістапада адбылася прэсавая канфэрэнцыя, на якой былі зробленыя падсумаваньні візіту лідэраў аб'яднанай апазіцыі ў краіны Усходняй Эўропы. У канфэрэнцыі прынялі ўдзел Вінцук Вячорка, Аляксей Кароль, Андрэй Саньнікаў.

Беларускія дэмакратычныя лідэры наведалі Эўрапейскую камісію, Эўрапейскі парлямэнт, Раду Эўропы, міністэрствы замежных справаў і парлямэнты Францыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны.

Мэтай візіту было інфармаваньне заходніх палітыкаў пра дэмакратычную пэрспэктыву дэмакратычных пераўтварэньняў на прэзыдэнскіх выбарах у 2001 г.. У зьвязку з гэтым закраналіся шэраг іншых пытаньняў: адзінства дэмакратычных сілаў, кампанія байкоту выбараў, агульнае стаўленьне Эўразьвязу да падзеяў у Беларусі. Да заходніх калегаў было даведзена, што ў Беларусі набыты багаты досьвед працы аб'яднанай апазыцыі, што надае рэальны шанец захаваць адзінства і вылучыць аднаго кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах 2001 г. Бакі згадзіліся, што г. зв. палата прадстаўнікоў ня можа быць прызнаная за легітымны парлямэнт.

У размовах з эўрапейскімі лідэрамі закраналіся таксама эканамічныя пытаньні, праблема правоў чалавека ў кантэксьце рэпрэсіяў з боку беларускага ўрада. Закраналіся аспэкты зьнешняй палітыкі, ў прыватнасьці - пазыцыі Расеі. "Беларусь зацікаўленая ў захаваньні нэйтралітэту з боку Расеі да палітычных пераменаў унутры краіны, і мы спадзяемся, што Эўропа выкарыстае ўвесь патэнцыял свайго ўплыву, каб прадухіліць умяшальніцтва ва ўнутраныя справы Беларусі" - адзначыў сп. Вінцук Вячорка.

Прадстаўнікі беларускай апазыцыі знайшлі паразуменьне зь вядучымі палітыкамі Эўропы. Усе згадзіліся, што адзіны кандыдат ад аб'яднанай апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах - аптымальны спосаб дэмакратычных пераўтварэньняў у краіне.

*Прэсавая група БНФ "Адраджэньне" й партыі БНФ.*

## Рэгіянальная Беларусь

18 лістапада ў Берасці адбылося чарговае паседжанне Каардынацыйнай Рады "Рэгіянальная Беларусь".

Як паведаміў Каардынатар Рады Сямён Домаш, прадстаўнікі рэгіёнаў праінфармавалі прысутных аб стварэнні новых каардынацыйных аб'яднанняў у гарадах Пінск, Баранавічы, Наваполацк, Полацк і Ворша. Гэтым аб'яднанням прапанавана далучыцца да дзейнасці Каардынацыйнай Рады "Рэгіянальная Беларусь".

Была заслухана інфармацыя аб выніках нядаўніх выбараў у так званую палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу краіны. Адзначана, што ўдзел у нагляданні дэмакратычных партый і арганізацый паслужыў добрай практыкай для арганізацыі пільнага грамадскага кантролю ў час будучай прэзідэнцкай кампаніі.

Каардынацыйная Рада "Рэгіянальная Беларусь" падтрымала намаганні КРДС па вылучэнні адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў. Выказана пажаданне паскорыць гэты працэс, каб не пазней студзеня 2001 года гэта пытанне было вырашана на Кангрэсе Дэмакратычных Сілаў. Усебакова абмеркаваны і распрацаваны магчымы механізм вылучэння адпаведнага кандыдата. Прапанова будзе ўнесена ў КРДС.

Для правядзення інфармацыйнай работы, збору подпісаў, агітацыйна-масавай работы, арганізацыі кантролю будучых прэзідэнцкіх выбараў Каардынацыйная Рада заклікала ўсе рэспубліканскія і рэгіянальныя дэмакратычныя арганізацыі неадкладна пачаць стварэнне цэнтральнага, абласных і раённых штабоў па падрыхтоўцы і ўдзелу дэмакратычных сілаў у маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах.

Удзельнікі паседжання станоўча ацанілі ўтварэнне і дзейнасць дэмакратычнай моладзевай кааліцыі "Пераменаў!". Вырашана аказваць ёй усебаковую падтрымку.

Пацверджана рашэнне аб узнагароджанні "Рэгіянальнай газеты" (г. Маладзечна) каштоўным падарункам за шырокае асвятленне мясцовых падзей.

Каардынацыйнай Радай сумесна з Беларускай Асацыяцыяй журналістаў абвяшчаны конкурс сярод недзяржаўных газет на лепшае адлюстраванне дзейнасці рэгіянальных няўрадавых грамадскіх, палітычных, прафсаюзных арганізацый і іх аб'яднанняў. Пераможца будзе вызначаны па выніках работы за паўгоддзе, атрымае дыплом і каштоўны падарунак.

*Антон Лабовіч,*
*г. Горадня.*

## Маладыя гарадзенскія актывісты атрымалі "дарослае" пакараньне

22 лістапада ў судзе Ленінскага раёна г. Горадні разглядалася справа старшыні Гарадзенскай арганізацыі Малады Фронт Андрэя Мялешкі. Ён абвінавачваўся ў арганізацыі несанкцыянаванага пікету 12 лістапада "Пераменаў!" і ва ўдзеле у несанкцыянаваным шэсьці 8 кастрычніка - Марш Свабоды ў Горадні. Судзьдзя Дзьмітрый Дзенчанка вынес прысуд: 170 мінімальных заробкаў.

23 лістапада было вынесенае папярэджаньне намесьніку старшыні Гарадзенскай арганізацыі Малады Фронт Вадзіму Саранчукову за ўдзел у Маршы Свабоды, што адбываўся ў Горадні 8 кастрычніка.

У судзе Ленінскага раёна 23 лістапада вырашылася справа старшыні Маладой Грамады Сьвятланы Нех. Яе прыцягнулі да адказнасьці за арганізацыю несанкцыянаванага пікету 12 лістапада "Пераменаў!", а таксама за арганізацыю гарадзенскага Маршу Свабоды 8 кастрычніка. Сьвятлане Нех, у адносінах да якой ўжылі грубую фізычную сілу пры затрыманьні, трэба заплаціць дзяржаве 150 мінімальных заробкаў.

*Прэсавая група БНФ "Адраджэньне" й Партыі БНФ.*

**Голас** *грамадскай* **Ліды** **№ 5(39) 1 снежня 2000 г.**



# Лідская рэгіянальная Асамблея няўрадавых арганізацый

20 лістапада ў Лідзе адбыўся чаргова Соймік кіраўнікоў лідскіх няўрадавых арганізацый. Соймік вырашыў змяніць арганізацыйную структуру 3-га сектара Лідскага рэгіёну і ўтварыў Лідскую рэгіянальную Асамблею няўрадавых арганізацый. Кіраўнічым органам Асамблеі з'уляецца Соймік, у які ўваходзяць кіраўнікі арганізацый - сяброў Асамблеі, альбо паўнамоцныя прадстаўнікі арганізацый.

Маршалкам (старшынём) Сойміку абраны старшыня Лідскай краязнаўчай арганізацыі "Павет", рэдактар Лідскай старонкі ў "Інтэрнэт" Лявон Лаўрэш, адказным сакратаром абраны кіраўнік рэсурсовага цэнтру "Генерацыя" Артур Ганько.

Да сяброўства ў Асамблеі дапускаюцца, як зарэгістраваныя, так і незарэгістраваныя арганізацыі.

Кантактны тэлефон адказнага сакратара 5-03-37.

# *Першы Рэспубліканскі фестываль незалежнай прэсы*

***17-18 лістапада ў Менску прайшоў Першы Рэспубліканскі фестываль незалежнай прэсы, арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў.***

***У фестывалі брала афіцыйны ўдзел 43 недзяржаўныя выданні Беларусі, пачынаючы ад "Народнай волі" і "Комсомольской правды в Беларусии" да рэгіянальных і мясцовых газет з розных куткоў краіны. Было прадстаўлена таксама і "Радыё Рацыя!.***

***Лідчыну на фестывалі рэпразантавалі газеты "Наша слова", "Голас Ліды", "Lida Exit", "Бярозаўскія навіны", часопісы "Лідскі летапісец" і "Ад лідскіх муроў".***

***Гасцямі фестывалю былі намеснік старшыні Літоўскага саюзу журналістаў Віліюс Каваляўскас, генеральны дырэктар рускага ПЭН-цэнтру Аляксандр Ткачэнка і дарадца старшыні Саюзу журналістаў Расеі Аляксандр Капейка.***

---

**Шаноўныя патрыёты Беларусі!**

**Набліжаецца час, калі ад кожнага запатрабуецца адданая праца дзеля Бацькаўшчыны. Свае заявы на ўступленне ў Партыю БНФ накіроўвайце на адрас газеты, перадавайце асабіста, ці праз сяброў БНФ або пасылайце на адрас: 220005, г. Менск, вул. Варвашэні, 8, Управа Сойму Партыі БНФ.**

# Чума на выбарчых участках у Лідзе

**Вяртаючыся да выбараў 15 кастрычніка 2000 года**

Паважаныя чытачы, ці адбыліся выбары ў г.Ліда? Мяркуйце самі. Возьмем, напрыклад участак № 39, на якім я быў назіральнікам. Па спісу на пачатак галасавання было 1896 чалавек, адзін выбаршчык запісаўся ў спіс у працэсе галасавання – значыць усіх выбаршчыкаў налічвалася 1897 чалавек. Але пасля 20.00 гадзін на ўчастак навалаілася чума. "Памерла" адразу 17 чалавек. У акт унеслі 1880 чалавек, якія маюць права голасу, а прагаласавала 780 чалавек, у саміх урнах знайшлі 779 бюлетэняў, адзін бюлетэнь забраў з сабой выбаршчык з гэтага выцякае – выбары на ўчастку № 39 – не адбыліся. На суседнім участку № 37 у 19.00 гадзін прагаласавала 41 % выбаршчыкаў. З 19 гадзін выбаршчыкі хлынулі на ўчастак ракой. Пасля хуткага агляду заўважыў і вытток гэтай "ракі" - намесніка дырэктара завода "Оптык" Бюрыкова Ю.А. з камендантамі і выхавацелямі. Тое, што яны парушалі закон і прымушалі ў дзень выбараў да галасавання, цягне на крымінальную справу. У мяне ёсць пісьмовыя заявы жыхароў інтарнатаў. Прыйдзе час і мы зможам іх выкарыстаць. Часу даўнасці на гэта няма. На іншых участках "памірала" яшчэ больш. Возьмем, напрыклад, участак № 19, у спісах лічылася 2837, унесена ў ведамасць – 2418 (памерла 419), на ўчастку № 9 унесена 1765, унесена ў ведамасць – 1588 (памерла 177 чалавек). І так амаль што на кожным участку. У шпіталі галасавалі амаль мёртвыя і ляжачыя ў рэанімацыі. Там прагаласавала 100 %. Паводле дадзеных цэнтральнай выбарчай камісіі прагаласавала трошкі болей 50 %. Варта вярнуць у спісы "зачумленых" выбаршчыкаў і ні пра якія 50% гаварыць не выпадае

Паважаныя старшыні камісій, набліжаюцца новыя выбары, мы звяртаем вашую ўвагу на крымінальную адказнасць і за такую "чуму" і за вашую ўласную "зачумленасць".

*Станіслаў Карабан.*

---

Ва Ўправу Сойму Партыі БНФ грамадзяніна Беларусі

________________________________

________________________________

________________________________

які нарадзіўся "____" ____________ 19___ г., жыве па адрасе__________________________

________________________________

род заняткаў________________________

тэлефон____________________________

## ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне ў Партыю БНФ. Праграмныя палажэнні БНФ "Адраджэньне" падзяляю. Абавязуюся выконваць Статут Партыі БНФ.

__________________ (дата)

__________________ (подпіс)

**Заснавальнікі: Лідская гарадская і Лідская раённая рады БНФ "Адраджэньне". Рэдактар Ліда Кісялевіч**

**Адрас для допісаў:** 231300 г. Ліда - 2 п/с 7

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі. Наклад 250 асобнікаў. Фармат А-4

Газета распаўсюджваецца на правах нутраной дакументацыі Надрукавана на абсталяванні Свабоднага прафсаюза Беларусі